# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 27 (906) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 8 ЛІПЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


# Крыж Грунвальду — Райску

Райск, 17 чэрвеня. Хаця ідзе дождж, на школьнай пляцоўцы сабралося шмат народу. Мясцовыя жыхары, прыезжыя з навакольных вёсак, дэлегацыі бельскіх прадпрыемстваў, заводаў і ўстаноў. Ужо трыццаць першы раз гэтая невялікая вёска ў Бельскім павеце святкуе жалобны дзень.

Раніцай 16 чэрвеня 1942 года вёску акружылі падраздзяленні эсэсаўцаў, гестапа і жандармерыі. Жыхароў вёскі сагналі на пляц ля царквы. А пасля пачуліся стрэлы. Было забіта 149 чалавек. Вёска была спалена, а астаўшыхся ў жывых жыхароў высялілі або вывезлі на прымусовую працу ў Трэці рэйх. Повадам да гэтай крывавай расправы быў расстрэл некалькіх немцаў тутэйшымі партызанамі.

Райск наогул багаты рэвалюцыйнымі традыцыямі. У 1929 годзе стварылася тут першая партыйная ячэйка КПЗБ. А ўжо ад першых дзён гітлераўскай акупацыі жыхары Райска, а асабліва камуністы дапамагалі хаваўшымся афіцэрам і салдатам Савецкай Арміі. Гэта тут, на Беластоцкай зямлі, ужо ў 1941 годзе савецкія салдаты разам з мясцовым насельніцтвам стварылі партызанскія атрады. Тут, на Беласточчыне, ствараліся таксама антыфашысцкія камітэты, якія былі ініцыятарам паўставання савецка-польскіх партызанскіх падраздзяленняў і груп.

За ўсё гэта фашысты змазвалі з зямлі вёскі і гарады, праліваючы кроў людзей, адстойваючых сваю свабоду.

*

Дакладна ў 11 гадзін распачынаецца ў Райску вялікая ўрачыстасць. На пляц, упрыгожаны чырвонымі і бела-чырвонымі сцягамі, уваходзяць высокія госці: член ЦК ПАРП, кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ЦК **Тэодар Палімонка,** віцэ-міністр унутраных спраў, генерал брыгады **Міраслаў Мілеўскі,** сакратары ВК ПАРП **Уладзіслаў Юшкевіч і Яўген Златажынскі,** старшыня Прэзідыума ВРН **Зыгмунт Спрыха,** старшыня ВК

Працяг на стар. 4



**Уручаецца Крыж Грунвальду III класа вёсцы Райск. Злева: член ЦК ПАРП, кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ЦК Т. Палімонка, дэлегацыя Райска — П. Гадзіна, Я. Шумская і С. Чэчуга.**



**Ганаровая трыбуна; урачыстасць адкрывае I сакратар гміннага камітэта ПАРП у Храбалах А. Філіманюк.**

## Праз тыдзень у „Ніве"

**● Як Сямяціцкі павет рыхтуецца да цэнтральных дажынак ● Пра фэстыны на Беласточчыне (у Беластоку, у Нараўцы, у Літвінавічах) ● Клуб у Супраслі мае чым пахваліцца ● Крушынянскія легенды ● Пра дыстрыбуцыі ў Гарадку ● Беларускі лён ● Пра школу ў Махнатым ● Пра футбалістаў з Навасадаў ● Весткі з Грэдалёў, Целушкоў, Кляшчэляў, Тарнопаля і трох Астравоў ● Песня „Do szczęścia blisko"**

## Сустрэчы з землякамі

*

**У гэтым годзе, як вядома, Беласточчына за поспехі ў грамадска-гаспадарчым развіцці ўганаравана быць гаспадаром Цэнтральных дажынак. Вялікае гэта свята для Беласточчыны.**

**Ёсць звычай, што ў святочны час збіраюцца людзі блізкія, каб пагутарыць аб сваім жыцці-быцці. Многа людзей з Беласточчыны рассеялася па ўсёй краіне. Мы і вырашылі сустрэцца з імі ў гэты святочны час.**

# „Трэба з жывымі ўперад ісці..."

*

Нягледзячы на позні вечар, мне доўга прыходзіцца чакаць п/палк. др інж. Міхала Сычэўскага. Як паведамляюць жонка Крыстына і сын Павел, ён праводзіць якраз у лабараторыі важныя доследы і перад іх закачэннем прысці не зможа. Калі ўжо ўваходзіць у пакой, ад мундзіра разносіцца пах розных хімікатаў. Пакідаем сямейства ля тэлевізара і пераходзім у кабінет. На стале рукапісы, планшы, чарцяжы, табліцы... Усё ў нейкім, відаць, гаспадару толькі зразумелым парадку...

— Нават жонцы не дазваляю парадкаваць мае паперы, — як быццам чытаючы мае думкі, гаворыць гаспадар.

Выяўляю мэту свайго прыбыцця:

— Ці Вы, ураджэнец Беласточчыны, як вайсковы вучоны, не захацелі б сказаць некалькі слоў чытачам „Нівы"?

— Варта сказаць аб беластоцкай моладзі. Прабываючы амаль 20 год па-за межамі Беласточчыны, з гэтага 14 год як навуковы супрацоўнік Вайсковай тэхнічнай акадэміі (ВАТ), я заўважыў, што моладзь, якая паходзіць з Беласточчыны, дабіваецца значных дасягненняў, імкнецца да атрымання вышэйшай адукацыі, не затрымоўваецца на сярэдняй ці тым больш пачатковай школе. Параўноўваючы яе з моладдзю з іншых



Працяг на стар. 4

# БГКТ хроніка

■ 18 чэрвеня сакратар беластоцкага павятовага аддзела БГКТ Геня Іванюк у Новай Волі спаткалася з мастацкім жаночым калектывам і разам з ім абмеркавала ўсе справы, звязаныя з іх першым выступленнем на беларускім народным фэстыне ў Рыбаках.

■ 19 чэрвеня ў Піражках адбыўся сход БГКТ (старшыня гуртка Пётр Алекша) з удзелам інструктара ГП на сакольскі аддзел Ірэны Місевіч. Сход прысвечаны быў справам арганізацыйнага ўмацавання тэатральнага калектыву, які падрыхтоўвае п'есу Сакрата Яновіча „Люцынка-інжынерыха".

■ 20 чэрвеня старшыня ГП Мікалай Самоцік і сакратар праўлення беластоцкага павятовага аддзела Геня Іванюк з удзелам гуртка БГКТ у Рыбаках (старшыня гуртка Мікалай Хлябіч). Гурток гэты разам з мясцовым сельгасгуртком (старшыня сельгасгуртка Мікалай Міруць) будзе гаспадаром беларускага народнага фэстыну. На гэтым сходзе паасобным асобам прыдзелены былі канкрэтныя заданні адносна падрыхтоўкі і правядзення фэстыну.

■ Сакратар бельскага аддзела БГКТ Анна Лазавік 20 чэрвеня ўручыла новыя легітымацыі 18 членам БГКТ у Пасынках.

■ У Слоі 20 чэрвеня на сходзе гуртка БГКТ было выбрана новае праўленне. Старшынёй гуртка БГКТ з'яўляецца цяпер Іван Хомік, сакратаром — Марыся Фідзюкевіч і скарбнікам — Анна Хомік. На сходзе прысутнічала інструктар ГП на сакольскі аддзел Ірэна Місевіч.

■ 23 чэрвеня ў клубе „Рух" у Калодне (Беластоцкі павет) адбылася аўтарская сустрэча Сакрата Яновіча, які чытаў прысутным свае творы і адказваў на шматлікія пытанні.

■ Да 25 чэрвеня члены БГКТ з сямяціцкага аддзела аплацілі больш як 50% членскіх складчын. Найлепш выглядае гэта справа ў гуртках БГКТ у Клюковічах (старшыня гуртка Уладзімір Баранчук) і ў Мілейчыцах (старшыня Сяргей Крэйза).

■ 24 чэрвеня ў беластоцкім парку адбыўся народны беларускі фэстын, прысвечаны Дням Савецкай Беларусі ў Польшчы. Арганізаваў фэстын гарадскі аддзел БГКТ пры дапамозе гарадскога аддзела культуры. (мх)

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 **СВЕТ**  **БССР**  **ПОЛЬШЧА**  **ВАЯВОДСТВА**

### Г. КІСІНДЖЭР АБ ВІЗІЦЕ

Памочнік прэзідэнта ЗША Г. Кісінджэр наладзіў прэс-канферэнцыю ў сувязі з завяршэннем афіцыйнага візіту Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. Брэжнева ў Злучаныя Штаты.

Г. Кісінджэр адзначыў, што ў час сустрэчы на вышэйшым узроўні ў Маскве ў маі мінулага года былі абвешчаны агульныя прынцыпы савецка-амерыканскіх адносін і пацверджана пажаданасць доўгатэрміновай эвалюцыі на шляху да мірных адносін паміж двума народамі і нарэшце да супрацоўніцтва паміж імі.

Памочнік прэзідэнта асобна спыніўся на падпісаным Л. Брэжневым і Р. Ніксанам пагадненні аб прадухіленні ядзернай вайны. Гэта пагадненне, сказаў ён, можа стаць вяхой у дасягненні добраахвотнай стрыманасці паміж дзяржавамі, стрыманасці, якая з'яўляецца сутнасцю міру і якая можа паслужыць асновай новых міжнародных адносін.

### Л. БРЭЖНЕЎ У ФРАНЦЫІ

У адпаведнасці з раней дасягнутай дагаворанасцю 25—27 чэрвеня гэтага года ў Парыжы адбылася сустрэча Л. Брэжнева з прэзідэнтам Ж. Пампіду. Сустрэча была прысвечана рабочым гутаркам па перспектыўных пытаннях савецка-французскіх адносін і вузлавых праблемах міжнароднай палітыкі. Гутаркі былі адзначаны шырокім узаемаразуменнем і праходзілі ў атмасферы дружалюбнасці, натуральнай для адносін СССР і Францыі.

У пачатку 1974 года па запрашэнню Л. Брэжнева Ж. Пампіду наведае Савецкі Саюз.

### ЕЎРАПЕЙСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПАЧАЛАСЯ

У фінляндскай сталіцы Хельсінкі сабраліся міністры замежных спраў 33 еўрапейскіх дзяржаў, а таксама Злучаных Штатаў і Канады. Упершыню на кантыненце, на якім пачаліся дзве сусветныя вайны, прадстаўнікі паасобных дзяржаў сабраліся, каб наладзіць мірнае супрацоўніцтва і бяспеку ў Еўропе.

### САЙГОНСКІЯ ПАРУШЭННІ

Сайгонская адміністрацыя працягвае сур'ёзна парушаць падпісанае ў Парыжы пагадненне аб спыненні вайны і аднаўленні міру ў В'етнаме. Праводзячы падрыўныя аперацыі супраць раёнаў, якія кантралююцца ЧРУ РПВ, да гэтага часу сайгонская адміністрацыя зрабіла больш чым 104 тысячы парушэнняў парыжскага пагаднення па В'етнаму.

Толькі за перыяд з 15 па 25 чэрвеня, гэта значыць за дзесяць дзён пасля падпісання чатырохбаковага сумеснага камюніке аб выкананні парыжскага пагаднення, было зарэгістравана 2.405 розных парушэнняў гэтага пагаднення з боку сайгонскай адміністрацыі.

### ГДР і ФРГ РЭКАМЕНДАВАНЫ Ў ААН

Разгледзеўшы заявы Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, Савет Бяспекі рэкамендаваў Германскай асамблеі ААН прыняць абедзве дзяржавы ў члены Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. (ак)

### ЭЛЕКТРОННЫ МОЗГ БССР

Рэспубліканскі вылічальны цэнтр, які з поўным правам можна назваць „электронным мазгом" БССР, размясціўся ў прыгожым будынку на Партызанскім праспекце ў Мінску. Ён абслугоўвае больш 160 заказчыкаў, у ліку якіх два дзесяткі прамысловых прадпрыемстваў, 55 гандлёвых устаноў і 18 будаўнічых арганізацый. Паслугамі гэтага электроннага вылічальнага цэнтра карыстаюцца таксама статыстычныя ўпраўленні, міністэрствы і ведамствы. Кожны месяц „Электронны мозг" БССР праводзіць 30 мільёнаў вылічэнняў і падлікаў.

### СТАРШЫНЯ КАЛГАСА — ВУЧОНЫ

Калгасам „Чырвоная Армія" Рагачоўскага раёна ад 1950 года кіруе Віктар Вараб'ёў. Нядаўна гэты старшыня абараніў кандыдацкую дысертацыю „Унутрыгаспадарчы разлік і матэрыяльнае стымуляванне ў калгасах". Маскоўскі дзяржаўны універсітэт імя Ламаносава за гэтую навуковую працу прысвоіў яму ступень кандыдата эканамічных навук.

Калгас „Чырвоная Армія" пад кіраўніцтвам старшыні-вучонага ўтрая павысіў ураджайнасць збожжа і бульбы, а таксама вытворчасць малака і мяса. Асноўныя прадукцыйныя працэсы ў гаспадарцы поўнасцю механізаваны.

### РЫБАЦКАЯ ВЁСКА

Вёска Моталь на Палессі ўшчыльную падступае да возера, а за яе ваколіцай нясе свае спакойныя і празрыстыя воды прыгожая Ясельда. Жыхары гэтай вёскі здаўна славяцца як вопытныя рыбаловы. У іх распараджэнні знаходзіцца цяпер 1200 маторных лодак. Мясцовы калгас „40 год Кастрычніка" часта арганізуе спаборніцтвы сярод сваіх рыбакоў.

### ТУРАЎСКІ НАРОДНЫ

Каля 9 год назад пры Тураўскім доме культуры быў створан танцавальны калектыў. Ад выступлення да выступлення расло яго майстэрства. Тураўскіх танцораў добра ведаюць на Гомельшчыне. Ім апладзіравалі жыхары Мінска і наведвальнікі Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР у Маскве. Нядаўна калегія Міністэрства культуры БССР прысвоіла Тураўскаму танцавальнаму калектыву высокае званне народнага.

### САМАВАР З ДРЭВА

...рашылі выпускаць на Радашковіцкім прамысловым камбінаце Маладзечанскага раёна. Ён спалучае ў сабе якасці артыстычнага прадмета і карыснай хатняй прылады. Шматгранны конус з паліраваных дубовых пласцін, замацаваных залачонымі паясамі, фігурныя ручкі, кран і накрыўка самавара, розныя падшклянкі, тонкай работы паднос, надаюць усяму чайнаму набору прыгожы выгляд, а ўнутры самавара ўманціраваны металічны электракіпяцільнік. (вр)

### II КАНГРЭС ПОЛЬСКАЙ НАВУКІ

На днях адбыўся II кангрэс польскай навукі. Удзел у ім прынялі вучоныя з розных галін навукі і розных навуковых цэнтраў краіны. Прысутнічалі найвышэйшыя ўлады краіны з Э. Геркам, Г. Яблонскім і П. Ярашэвічам на чале. На кангрэс прыехалі дэлегацыі вучоных з 22 краін. Савецкая дэлегацыя прыехала на чале з прэзідэнтам АН СССР праф. Мсціславам Келдышам. Кангрэс сфармуляваў вялікую праграму навукова-даследчых прац, якія памогуць увайсці Польшчы ў рад найбольш развітых краін свету.

На кангрэсе Э. Герэк сказаў: „Польшча патрабуе вялікай навукі, вялікіх дасягненняў, вялікіх навукова-тэхнічных мерапрыемстваў".

Польскія вучоныя накіравалі заклік да вучоных свету, каб аб'яднаць сілы вучоных для справы міру і супрацоўніцтва.

### I САКРАТАР ЦК ПАРП ПРЫНЯЎ ПРАФ. М. КЕЛДЫША

Прэзідэнт АН СССР, які стаяў на чале савецкай дэлегацыі на II кангрэс польскай навукі, быў прыняты Э. Геркам. Размова прайшла ў сардэчнай атмасферы.

### ПРЭЗІДЭНТ ІРАКА Ў ПОЛЬШЧЫ

На запрашэнне ЦК ПАРП і ўрада ПНР прабываў у Польшчы з афіцыяльным візітам генеральны сакратар партыі БААС (Партыя сацыялістычнага адраджэння арабаў) прэзідэнт Іракскай рэспублікі — Ахмед Хасан аль Бакр. Польска-іракцкія размовы вяліся ў ЦК. На парадку дня стаялі міжнародныя справы і справы польска-іракскага супрацоўніцтва. На заканчэнне візіту апублікавана супольнае камюніке. Кіраўніцтва нашай краіны было запрошана ў Ірак.

### КАНЦЛЕР Б. КРАЙСКІ Ў Э. ГЕРКА

На заканчэнне афіцыяльнага візіту ў нашай краіне федэратыўнага канцлера Рэспублікі Аўстрыі др Б. Крайскага ён быў прыняты I сакратаром ЦК ПАРП Э. Геркам. Размова датычылася далейшага развіцця палітычных суаднасін і ўзаемна карыснага супрацоўніцтва паміж Польшчай і Аўстрыяй. Апублікавана таксама польска-аўстрыйскае камюніке.

### У ХЕЛЬСІНКІ

На чале польскай дэлегацыі на еўрапейскую канферэнцыю бяспекі ў Хельсінкі — сталіць нейтральнай Фінляндыі — стаіць міністр замежных спраў ПНР Стэфан Альшоўскі.

### МАРШАЛ І. ЯКУБОЎСКІ Ў Э. ГЕРКА

Польшчу наведаў галоўнакамандуючы аб'яднанымі ваеннымі сіламі дзяржаў-удзельніц Варшаўскага дагавора маршал Савецкага Саюза Іван Якубоўскі. Ён і суправаджаючыя яго таварышы былі прыняты I сакратаром ЦК ПАРП Э. Геркам і прэм'ерам П. Ярашэвічам. Сустрэча была сардэчнай. (вл)

### ДНІ БЕЛАРУСІ

Ад 30 чэрвеня да 6 ліпеня на Беласточчыне, як і па ўсёй краіне, праходзілі дні Беларусі. Наша ваяводства ўтрымоўвае цесныя і сардэчныя сувязі з БССР, асабліва з Гродзеншчынай. Мы не раз паведамлялі аб супрацоўніцтве асобных прадпрыемстваў, школ і ўстаноў, аб абмене дэлегацыямі. Дні Беларусі пачаліся ў нас ад агульнапольскага адкрыцця Дзён Беларусі, якое адбылося 30 чэрвеня ў Саколцы. Сакольскаму прадпрыемству будаўнічай сталярні ў гэты дзень было прысвоена імя Сяргея Прытыцкага. Адбыўся таксама вялікі мітынг з удзелам 500-асабовай дэлегацыі Беларускай ССР.

На адзначэнне Дзён Беларусі ў Беласток прыехаў 80-асабовы аркестр народных інструментаў Гродзенскай музычнай школы, а таксама шэраг мастацкіх і спартыўных калектываў. У Беластоку, Гайнаўцы і Бельску адбыліся спартыўныя спаборніцтвы каманд Гродна і Беласточчыны. У шматлікіх клубах і ўстановах арганізаваны выстаўкі аб Беларусі, лектары выступілі з дакладамі, дэманстраваліся беларускія кінафільмы. Вялікі ўклад у правядзенне Дзён Беларусі ў нашым ваяводстве ўнеслі БГКТ, ТППР і іншыя арганізацыі.

### СУСТРЭЧА З САКРАТАРЫЯТАМ

У сувязі з міжнародным днём спулдзельчасці адбылася сустрэча членаў сакратарыята ВК ПАРП з прадстаўнікамі спулдзельчых арганізацый Беласточчыны. Старшыня Ваяводскай камісіі па супрацоўніцтву спулдзельцаў Ю. Стэльмашынскі паінфармаваў прысутных аб задачах, якія стаяць перад спулдзельчасцю, падкрэсліваючы справы забеспячэння рынку і развіцця паслуг для насельніцтва. II сакратар ВК ПАРП У. Юшкевіч высока ацаніў дзейнасць спулдзельцаў у развіцці нашага рэгіёну.

### НА ПЛАНТАЦЫЯХ ТРУСКАЛАК

Старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха і сакратар ВК ПАРП С. Завадзінскі пабывалі на плантацыях трускалак у Беластоцкім павеце. Гаспадары ваяводства цікавіліся таксама вырошчваннем гародніны. Беласточчына за апошнія гады стала перадавым ваяводствам у вырошчванні трускалак, а беластоцкая „Вітаміна" займае першае месца ў краіне сярод агародніных спулдзельняў. Ужо цяпер Беласточчына высылае палову сваёй прадукцыі па-за межы ваяводства, а ў наступныя гады прадбачваецца павелічэнне экспарту ў некалькі разоў.

### СЕСІЯ ВРН

28 чэрвеня адбылася юбілейная, XXV сесія ВРН. Галоўнай тэмай сесіі былі задачы рад нарадовых у выхаванні моладзі і яе ўдзелу ў грамадска-гаспадарчым развіцці Беласточчыны. Як адзначыў у дакладзе намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч, у нашым ваяводстве 37% насельніцтва няма яшчэ 18 год. Дарастаючай моладзі трэба даць добрае выхаванне і высокую прафесіянальную кваліфікацыю. Вырашана было правесці агульны перагляд кваліфікацый і месц працы моладзі. У пастанове, прынятай на сесіі, дакладна акрэслены задачы паасобных аддзелаў Прэзідыума ВРН, павятовых і гарадскіх рад нарадовых. (яч)




**Niedziela 8.VII.**

7.30 Program dnia. 7.35 TV Technikum Rolnicze: „Organizacja prac żniwnych". 8.15 „Przypominamy, radzimy". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 „Znów na Galapagos" — film dok. ang. („Świat, który nie może zaginąć"). 9.25 „Antena". 9.40 „Potomkowie Ikara" — film dok. ang. 10.35 „Interstudio". 11.05 PKF. 11.15 Koncert Niedzielny z Podebradów (CSRS). 12.15 Dziennik. 12.30 „Woda dla wsi". 13.00 Teatrzyk dla Przedszkolaków. 13.45 „O czym żeglarz wiedzieć musi" („Pokochać wiatr"). 14.15 Losowanie Totolotka. 14.30 „Piórkiem i węglem". 15.00 „Polskie skrzydła" — teleturniej. 15.55 „Spotkanie w Łazienkach". 16.25 Estrada Poetycka w wykonaniu i reżyserii W. Siemiona. 16.45 „Tele-Echo". 17.50 Program filmowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 73. Koncert finałowy. 21.45 „Narzeczona" — nowela film. TV Czechosł. („Zapomniane historie"). 22.30 Magazyn sportowy. Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Poniedziałek 9.VII.**

16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Echo stadionu". 17.05 TV Kurier Olsztyński. 17.20 „Oferty". 17.35 TV Kurier Warszawski. 18.00 Wyścig kolarski dookoła Polski. Jazda indywidualna na czas wokół Zamku Królewskiego w Warszawie. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Letni Przegląd Teatru TV: A. Strindberg — „Ojciec". 21.40 „Pryzmat" — mag. handlu zagr. 22.10 Arie operetkowe J. Offenbacha śpiewa Agnieszka Kossakowska. 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Wtorek 10.VII.**

10.00 „Narzeczona" — film czechosł. („Zapomniane historie"). 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Copernicus Trymphans" czyli „Rzecz o sławnym zwycięstwie Kopernikowskiego systemu" — opera anonimowego kompozytora z przełomu XVIII i XIX wieku. 17.15 „Czterystu przegradza Łabę" („Ambicje po polsku"). 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEFERIE. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Zbrodnia i kara" — film fab. radz. — cz. I. 22.00 Spotkanie z pisarzem — Jerzym Krzysztoniem. 22.30 Dziennik. 22.45 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Środa 11.VII.**

9.30 „Zbrodnia i kara" — film fab. radz. cz. I. 15.20 i 15.55 Matematyka dla nauczycieli. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Delta X Ray" — film dok. TVP. 17.30 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.55 „Wiejskie pejzaże". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Za kierownicą". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Fałszywy lord" — film ang. 21.05 „Świat i Polska". 21.45 „U progu współczesności" („Balet") odc. X. 22.15 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 12.VII.**

10.00 „Fałszywy lord" — film ang. 15.20 i 15.55 Matematyka dla nauczycieli. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Georges Bank" — film TVP. 17.10 Śpiewa i tańczy Zespół Pieśni i Tańca Uniwersytetu Jagiellońskiego „Słowianki". 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.45 Program publicystyczny. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr „Kobra": V. Subrt — „Weekend". 21.15 „Refleksje". 21.45 PKF. 21.55 „Ekspres nr. 30". 22.25 Dziennik. 22.40 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Świata w szermierce.

**Piątek 13.VII.**

10.00 „Upadek czarnego konsula" — film fab. radz. 15.45 Program dnia. 15.50 „Nie tylko dla pań". 16.20 „Śladami Elissy" („Wykopaliska, odkrycia, sensacje"). 16.50 Dziennik. 17.00 TELEFERIE. 18.00 Sprawozdanie z międzynarodowego turnieju siatkówki kobiet: Polska — Japonia. 19.00 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Melodie znad Adriatyku" — program estradowy jugosł. 20.45 „Panorama". 21.25 Teatr TV: L. Hellman — „Lisie gniazdo". 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe.

**Sobota 14.VII.**

10.00 FILMY RENE CLAIRA: „Pod dachami Paryża" — film fab. franc. 15.50 Program dnia. 16.00 Program I proponuje. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa" — program TV NRD. 17.40 „Turystyka i wypoczynek". 18.10 „Na paryskim bruku" — film dok. TVP. 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Teatr Rozrywki: K. Krumłowski — „Królowa Przedmieścia". 22.05 Dziennik. Wiadomości sportowe i Kronika Mistrzostw Zw. Radzieckiego w lekkiej atletyce. 22.30 FILMY RENE CLAIRA: „Pod dachami Paryża" — film fab. franc.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 6 lipca**

7.35 Nowiny. 8.10 Szkoła szachowa. 8.40 Program muzyczny. 12.50 Program dnia. 14.45 Program sportowy dla uczniów. 15.20 Koncert. 15.50 Nowiny. 17.30 Film fabularny. 19.00 Czas. 19.30 Program sportowy. 21.00 Panorama nowin.

**Sobota, 7 lipca**

7.00 Program dnia. 7.20 Nowiny. 7.45 Przegląd międzynarodowy. 8.15 Dla dzieci. 9.45 Filmy animowane dla dzieci. 10.40 Koncert. 11.15 Film dokumentalny. 15.30 Spektakl. 16.30 Nowiny. 16.55 Piłka nożna („Torpedo" Moskwa — „Dynamo" Tbilisi). 18.30 Koncert. 19.00 Czas. 19.30 Film fabularny. 20.45 Klub szachowy. 21.05 Nowiny.

**Niedziela, 8 lipca**

7.00 Program dnia. 7.20 Nowiny. 7.30 Filmy animowane dla dzieci. 8.00 Dla żołnierzy. 9.00 Program muzyczny. 9.45 Koncert. 11.30 Moda. 12.10 Koncert. 12.50 Film fabularny. 16.00 Piłka nożna („Dynamo" Moskwa — „Zaria" Woroszyłowgrad). 17.45 Film dokumentalny. 19.00 Czas. 19.30 Teatr miniatur. 20.40 Nowiny.

Нашы ІНТЭРВ'Ю

## З дырэктарам Аляксеем Карпюком

Наша рэдакцыя папрасіла дырэктара беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску, каб коратка праінфармаваў нас, як прайшлі ў іх у гэтым годзе матуральныя экзамены.

— Як прайшлі сёлета ў вас матуры?

— Добра.

— Колькі было вучняў у чацвертых класах і колькі приступіла да матуральных экзаменаў?

— Усіх вучняў у чацвертых класах было 85, да экзаменаў прыступіла 76 (рэшта атрымала пасведчанні аб заканчэнні сярэдняй школы) і 5 чалавек з мінулага года. Да вусных экзаменаў прыступіла 71 асоба і чатыры з мінулага года. Канчаткова матуру здалі 69 чалавек плюс 4 з мінулага года.

— Прашу, прадаўжайце далей ваш расказ.

— 20 вучням на ўрачыстым агульнашкольным сходзе, калі выдаваліся атэстаты сталасці, былі таксама ўручаны кніжныя ўзнагароды. Хачу яшчэ дадаць, што па беларускай мове 27 асоб атрымалі ацэнкі выдатныя, а 25 — добрыя. Па беларускай мове ўвогуле не было ў нашым ліцэі двоек.

— Ці захацелі б вы сказаць пару слоў аб далейшым лёсе вашых сёлетніх выпускнікоў?

— Тры вучаніцы атрымалі „індэксы“ — накіраванне школай без экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Вось яны: Лена Давідзюк (пра яе пісалі ў „Ніве“ нядаўна), яна сама родам з Мастаўлян у Беластоцкім павеце, 100 кіламетраў ад нашай школы. Выбрала яна польскую філалогію на філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Хоча быць настаўніцай. Яна атрымала ўсе ацэнкі выдатныя, за выключэннем добрай па нямецкай мове.

Людміла Троц з Бельска выбрала Варшаўскую палітэхніку — факультэт аховы асяроддзя.

Лена Шурбак будзе прынята без экзамена на рускую філалогію Варшаўскага універсітэта, на той аснове, што ўдзельнічала ў алімпіядзе рускай мовы III ступені. На цэнтральных спаборніцтвах у Жэшове заняла найлепшае месца сярод беластаччан.



51 чалавек з сёлетніх нашых выпускнікоў выбіраецца вучыцца на магістра-інжынера.

Ёсць выпускнікі, якія шкадуюць, што не было набору на стацыянарнае аддзяленне беларускай філалогіі, між інш., Людміла Васілюк з Плёсак.

— Дзякуем вам, тав. дырэктар, што падзяліліся з намі вашымі дасягненнямі і цікавымі інфармацыямі. Жадаем вам далейшых поспехаў у педагагічнай працы.

**Запісала Вера Леўчук**
**Фота А. К.**

# ЗАПРАШАЕМ ДА ДЫСКУСІІ НАД КУЛЬТУРАЙ

Важная і адказная праца пачалася ў галіне культуры на Беласточчыне!

Па ініцыятыве кіраўніка аддзела культуры Прэзідыума ВРН А. Гжэськевіча 18 чэрвеня г.г. у камеральнай зале тэатра імя А. Вянгеркі ў Беластоку сабраліся адказныя працаўнікі і вядучы грамадскі актыў, што дзейнічаюць на ніве культуры ў нашым ваяводстве, каб уступна абмеркаваць планы развіцця культурнага жыцця на Беласточчыне на сем будучых год, г. зн. па 1980 год. Пасля ўводнага даклада А. Гжэськевіча, у якім былі акрэслены перспектывы і асноўныя заданні ў галіне культурнага руху, сярод удзельнікаў нарады былі створаны спецыяльныя калектывы людзей, якія на працягу бліжэйшых двух месяцаў апрацуюць канкрэтныя планы развіцця розных галін культурнага жыцця на Беластоцкай зямлі па 1980 год. Працы калектываў спецыялістаў будуць закончаны ў пачатку верасня, і апрацаваны на іх аснове комплексны праект плана будзе прадстаўлены да публічнага абмеркавання.

А. Гжэськевіч звярнуўся да ўсіх дзеячоў культурнага руху на Беласточчыне, каб дзяліліся сваімі меркаваннямі, планамі і прапановамі з працаўнікамі аддзелаў культуры нарадовых радаў, дамоў культуры, выказваліся на старонках беластоцкіх газет і радыё ў справах развіцця культурнага жыцця ў нашым ваяводстве.

Увесь культурны рух, што актыўна развіваецца ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне пад уздзеяннем і апекай Беларускага грамадска-культурнага таварыства, з'яўляецца неад'емнай часткай культурнага жыцця нашага ваяводства. Ён будзіць да культурнай дзейнасці сялян, рабочых, моладзь вёсак і гарадоў усходняй Беласточчыны і стварае ім прыхільныя ўмовы для развіцця таленаў, дае магчымасць публічна запрэзэнтаваць сябе, з'яўляецца вельмі карысцяй формай прыемнага і карыснага адпачынку.

Самадзейныя драматычныя і харавыя калектывы, бібліятэкі, дамы культуры, святліцы, школьная мастацкая самадзейнасць, калектывы і салісты беларускай народнай песні, танцавальныя групы, народныя мастакі і разьбяры, ткачыхі славутых дываноў, ганчары і выканаўцы розных вырабаў з саломы — усе яны дзейнічаюць у канкрэтным асяроддзі, маюць свае радасці і клопаты, свае дасягненні і планы. І вось якраз ёсць вельмі адпаведная нагода, каб выказаць свае меркаванні, думкі і планы адносна развіцця культурнага жыцця ў сваім сяле, мястэчку, горадзе, ці нават ваяводстве аж да 1980 года.

„Ніва“ запрашае ўсіх да ўдзелу ў гэтай надта важнай справе. Для найцікавейшых і найбольш дзелавых прапаноў прадстаўляе яна свае старонкі. А ўсе, якія Вы да нас накіруеце, будуць перададзены калектывам спецыялістаў па складанні плана развіцця культурнага жыцця на Беласточчыне і выкарыстаны імі для агульнага дабра ўсіх нас, жыхароў Беластоцкай зямлі. Запрашаем!

**Мікалай Гайдук**

## Культура за лапухамі

Культурнае жыццё вёскі Крывяцічы Бельскага павету канцэнтруецца ў мясцовым клубе „Руху“. Знаходзіцца ён на скрыжаванні вуліц у мураваным і прасторным будынку. Побач, на панадворку, ёсць так званая „зялёная святліца“ або „патэльня“, дзе ўлетку моладзь арганізуе танцы. Дзіўна толькі, што ніхто з крывяцічан не звяртае ўвагі на чысціню і парадак вакол клуба. А непарадкі тут вялікія. Перад клубам вырас разложысты лапух і іншае пустазелле. У плоце не хапае ўсіх штыкет. На панадворку паламаны некаторыя дрэўцы, вецер ганяе паперкі. „Пацярпела“ таксама „зялёная святліца“, бо нехта параскідаў радок лавачак вакол яе. За клубам ляжыць нічым не прыкрыты вугаль, а побач людзі высыпаюць попел. Такі вобраз клубнага панадворка нікога не пацешыць. А гэта ж месца культурнага жыцця. Сюды прыходзяць усе. Каб лепш, без затрымкі можна было сюды ўвайсці, няма нават брамкі. (ця)

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## Футбалісты з Мокрага

Футболам моладзь з вёскі Мокрае Бельскага павету займалася здаўна. Заўсёды былі жадаючыя займацца спортам. У гэтым годзе футбольная каманда з Мокрага памаладзела. Уступілі ў яе юнакі, Павел Гаральчык, Міхась Нікіцюк (капітан каманды), Юрка Садоўскі, Юрка Рыжык, Павел Рыжык, Аляксандр Мусько (варатар), Мікалай Крук, Юрка Кандрацюк, Аляксандр Базылюк, Аляксей Нікіцюк і Павел Нікіцюк. Члены футбольнай каманды маюць добрую спартыўную пляцоўку, спартыўныя касцюмы і мячы. Фінансава дапамагла ім гміна ў Бельску Падляшскім. Ужо сёлета футбалісты з Мокрага сыгралі матчы з даволі моцнымі камандамі з Дубяжына, Грэдалёў і Орлі. Перад розыгрышамі ў Орлі зрабілі мы ім памятны здымак. Спартсмены з Мокрага былі ў бадзёрым настроі.

З кожным сыграным матчам калектыў футбалістаў усё больш цэментуецца і сталее.

**Тэкст і фота Я. Ц.**



## У КЛУБЕ АГАРОДНІКА

Адным з двух клубаў агародніка, якія існуюць у нашым ваяводстве, з'яўляецца клуб у Паўлах Беластоцкага павету. Дзейнічае ён ужо трэці год і адыгрывае вялікую культурна-выхаваўчую ролю ў шырокім паўлаўскім вясковым асяроддзі. Вядзе яго Анна Гаўрылюк. У клубе праводзяць рэпетыцыі харавы і драматычны калектывы, жанчыны арганізуюць кулінарныя курсы, адбываюцца вясковыя сходы, святкаванні знамянальных гадавін і важнейшых дзяржаўных свят. Аграномы вядуць тут курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Прадстаўнікі інспектарата дарожнага руху вядуць падрыхтоўку і праводзяць экзамены на права кіраваць фурманкай. У клубе праходзяць сустрэчы з пісьменнікамі, журналістамі і артыстамі. У апошні час моладзь задумала арганізаваць клуб любіцеляў тэатра. Усе наведвальнікі клуба маюць тут да выбару прэсу, тэлевізар, настольныя ігры. Каб на месцы можна было нешта сабе купіць, прадпрыемства „Рух“ забяспечвае яго сваімі таварамі, у тым ліку напіткамі — аранжадай, кавай, гарбатай.



**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**

*

Люся Іванюк нядаўна пачала весці бібліятэчны пункт у Тапчыкалах. Але яна ўжо добра ведае, якія кніжкі любяць чытаць яе чытачы. У пункце няма такіх кніжак, якія б залягалі полкі. Кніжкі пазычаюць і дарослыя, і дзеці.



**Фота Я. Чэрнякевіч**

## Стаўбы на вуліцы

Вулічны рух у вёсцы Дубічы Царкоўныя Гайнаўскага павету даволі вялікі. Ездзіць многа самаходаў, фурманак, матацыклістаў. У вёсцы ў мінулым годзе быў пабудаваны новы брук, але на паваротах не ліквідавалі тэлефонных стаўбоў. Стаяць яны не то што з боку вуліцы, хаця б на ходніку, а проста пасярод дарогі, на бруку. Стаўбы нічым не асветлены ўначы. Гэта ж скандал. Стаўбы пагражаюць прынамсі калецтвам, а то і смерцю. Не рабіце трывогі, скажа хтосьці. Дубічане аб гэтым ведаюць і ездзяць асцярожна. Але ж вуліца для ўсіх, хто едзе або ідзе! (ця)

# ТРЫБУНА чытачоў

## Нявыкарыстаныя зялёныя рэзервы

У Новым Востраве на Сакольшчыне ёсць каля 60 гектараў пасбішча, прасцей кажучы, выгану. Гэта супольная ўласнасць вёскі. Але гэты наш выган страшна занядбаны. Ён не меліяраваны, не ўгноены, увесь у купінах, ногі там можна паламаць.

Каб гэты выган загаспадарыць і падзяліць паміж гаспадарамі, то ў Новым Востраве можна было б падвоіць гадоўлю жывёлы. І дзяржаве і гаспадарам было б больш малака і мяса. Варта аб гэтым як найхутчэй падумаць! А. С.

## Белавежа ўсё прыгажэе

Белавежа разбудоўваецца. Разбудоўваецца ва ўсіх напрамках. Нібы новымі становяцца белавежскія вуліцы. Нядаўна з вуліц знялі звычайныя лятарні, а залажылі „яжэнёвыя". Гэта прыдае нашым вуліцам гарадскі выгляд. Цяпер і вечарам прыемна пашпацыраваць па ясных вуліцах.

Змянілі ў нас і драўляныя тэлеграфічныя слупы. Паставілі з цэменту. Як бачым, праўда, што ў Белавежы ўсё прыгажэй. К. Т.




### НАРАДЗІЛА МЯНЕ МАЦІ

Нарадзіла мяне маці
На пячы у сваёй хаце.
Бабка мяне прынімала,
А для бацькі так сказала:
„Будзе міну мець вясёлу,
Будзе ён любіці школу".
Бацька вокам бабку змерыў,
Яе словам не паверыў.
З гаспадаркі кожны сын
Быў вучоны з ста — адзін.
Дый задумаў немчура
Ісці вайною на цара.
Стаў ён сёлы нам паліці,
Страшна было тады жыці.
Плача бацька, плача маці,
Трэба з хаты уцякаці.
Бацька коніка запрог,
Узяў у воз, што толькі мог,
Я абняў бацьку за шыю
І мы паехалі ў Расію.
Як заехалі туды,
Там нам не было бяды.
Бо нас людзі прынялі.
Хатку на жыццё далі.
Але ж кожнаму, вядома,
Што ў чужых — гэта не дома.
Дык вярнуліся назад.
Быў ячшэ германскі лад.
Колькі тады бяды мелі —
Хлеб із лубіну мы елі,
А хто з грэчаной паловы —
То быў вельмі ганаровы.
Усе людзі наракалі,
Многа з голаду ўміралі.
Аж вось прышоў іншы час,
Іншы валадар у нас —
Стаў Пілсудскі каля власці.
Я ўжо ўмеў кароўку пасці
І спяваць, бо быў вясёлы,
Ждаў, калі пайду да школы.
Колькі радасці знайшоў,
Як у школу я пайшоў!
Расказаць не маю сілы,
Як мне свет тады быў мілы!
Сонца на мяне свяціла,
Быць мне ў школе было міла!
Але хутка згаслі мары,
Сталі нада мною хмары.
Бацька жорна пракаваў,
Іншу долю згатаваў.
Годзе ў школу ўжо хадзіці,
Трэба жорны вось круціці,
Таўчы куццю таўкачом —
Ты не будзеш панічом.
„Раскажу табе я, чом
Ты не будзеш панічом,
У цяперашніх паноў
Многа ёсць сваіх сыноў.
Мусім землю абрабляці,
Яны намі кіраваці".
І стаяла хмара чорна.
Тоўк куццю я, круціў жорна,
Цапом у гары круціў,
З бацькам збожжа малаціў.
Пасля плуг із бараною
Пазнаёміліcь са мною.
І так па апошні час
Завялася дружба ў нас.

**Іван Грыгарук,**
**Кленікі**

## Актывісты БГКТ



**Іван Петручук з Новаберазова.**
Фота **В. Буры**

## ЛЗС у Грыгораўцах

У вёсцы Грыгораўцы ў Бельскім павеце ўжо некалькі год таму назад быў арганізаваны гурток ЛЗС. Спачатку справы ішлі зусім добра. Потым аднак кіраўніцтва, сабраўшы складчыны, проста развяло іх у краме на віно і піва. Гурток ЛЗС перастаў існаваць. А вось у гэтым годзе ініцыятыву ўзялі ў свае рукі маладзья. Яны выбралі праўленне новага ЛЗС-у і сабралі складчыны. Старшынёй выбралі Юрку Галёнка, вучня Бельскага беларускага ліцэя. Скарбнікам стаў Міша Сцепанюк, а сакратаром Яўген Ткачук. ЛЗС налічвае цяпер 16 членаў. Дзякуючы новаму кіраўніцтву, хутка арганізаваліся футбольная і валейбольная каманды.

Да добрых футбалістаў у нас належаць: Валодзя Якубовіч, Юрка Галёнка, Яўгень Ткачук, Юрка Сахарчук, Сцёпа Ткачук і Алесь Сахарчук.

**Яўген Семянюк,**
Грыгораўцы




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Мне 17 год. Жыву я ў вялікай вёсцы. У нас многа дзяўчат і хлопцаў. У кожную нядзелю адбываюцца танцы, на якія прыязджаюць хлопцы з суседніх вёсак. Так я пазнаёмілася з хлопцам Веськам. Яму 19 год. Мы разам танцавалі цэлую забаву. Было нам вельмі весела. Пасля танцаў ён правёў мяне дамоў і сказаў, што ў наступную нядзелю прыедзе да мяне. На матацыкле прыехаў ён са сваім сябрам Толікам. У мяне ў той час была сяброўка Ліля. Мы ўсе разам пайшлі ў кіно. Я адчувала, што мною ўвесь час цікавіўся Толік. Калі скончыўся фільм, хлопцы правялі нас, а самі паехалі дамоў. Хоць Весек да мяне прыязджае, я ніяк не магу забыць Толіка. Я ўжо з ім спатканася ў горадзе. Гаварыў тады, што мяне кахае. Мне здаецца, што я ўжо не кахаю Веська. Хацела б калі-небудзь спаткацца з Толікам, але не ведаю як.

Парай, „Сэрцайка", ці мне сказаць Веську, што я ўжо яго не кахаю і каб ён ужо да мяне не прыязджаў? А мо забыць пра Толіка і так, як раней, кахаць Веська? За параду буду вельмі ўдзячна.

**Ірэна з Гайнаўшчыны**

**Ірэна!** Па-мойму, не кахаеш ты ні аднаго, ні другога. Проста, яны табе абодва падабаюцца. Ты яшчэ маладая і не зусім разумееш, што такое каханне. Табе здаецца, што калі хлопец падабаецца, дык гэта ўжо каханне. Аднак гэта не тое самае. Кахаць можна толькі аднаго. І калі ты сапраўды пакахаеш хлопца, дык толькі тан табе будзе падабацца і толькі аб ім ты будзеш думаць. А ў выбары, дык тут і сам Саламон не зможа дапамагчы. Выбар належыць толькі тваёму сэрцу. Можа, будзе гэта не адзін і не другі, а проста нейкі іншы хлопец, якога ты пакахаеш. Гэта час пакажа. А пакуль што адносся да хлопцаў па-сяброўску.

**„Сэрцайка"**

## Дачакаліся і Падазераны

Паверце, у Падазераны ўжо ходзіць аўтобус. Такога факту найстарэйшыя не памятаюць.

Да вайны не навіной было, што цётка з двума кошыкамі ягад ці іншай снеддзі перла пехатою на рынак у Беласток.

А ў Гарадок — нейкіх там 12 кіламетраў — дык гэта, здаецца, было рукой падаць. А сёння на табе! Аўтобус!

Скарыстаклі і Вейкі. Цераз іхнюю вёску дарога бяжыць. Сядай, калі ласка, і едзь, як пан — ці ў гміну, ці ў краму, ці з дзіцём да лекара. Не абышлося, праўда, без працы. Па абы-якой дарозе аўтобус не пойдзе. Прыйшлося грамадскім чынам выпраўляць жвіровую істужку. З ахвотаю ўзяліся людзі з Веек і Падазеран за працу. Кожная падсыпаная фура жвіру набліжала людзей да свету, адчыняла вароты ў будучыню. І вось аўтобус ходзіць! Здзейсніліся мары. І нічога, што часам недзе застране, часам сапсуецца па дарозе, ці адкліча курс. З часам прывыкне. Прывыкне да рэгулярных курсаў, да пасажыраў з клункамі, да беларускай гутаркі дзядзькоў ды цётак.

Але таксама з часам толькі старыя бабулькі будуць расказваць унукам казку-праўду, як гэта яны ў Беласток пехатою хадзілі.

*Ларс,*
Беластоцкі павет

## Студэнцкая падзяка М. Врублеўскаму



**На здымку: ганаровую адзнаку М. Врублеўскаму ўручае Леаніда Лясота.**

Мгр Мікалай Врублеўскі многа папрацаваў над збіраннем беларускага фальклору. Ён некалькі разоў быў кіраўніком студэнцкіх фальклорных экспедыцый.

Мікалай Врублеўскі любіць працу са студэнцкай моладдзю. І моладзь яго таксама. Ён быў адзначаны сярэбранай адзнакай ЗМСВ.

**Павел Гілеўскі,**
Варшава

## Геройскі ўчынак Валодзі



**Васьмікласнік Валодзя Дуда.**

Хачу, табе, дарагая рэдакцыя, паведаміць аб выпадку, які здарыўся 31 мая каля 15-ай гадзіны ў Дашах. Пачну ад пачатку. У нас у Дашах нядаўна пабудавалі рамізу, каля якой людзі выкапалі даволі глыбокі супрацьпажарны басейн, абложаны пліткамі. Басейн абгарадзілі драцяной сеткай, аднак малым дзецям гэта невялікая перашкода.

Дык вось 21 мая 5-гадовы Мірэк Пікуцін перабраўся за тугую агароджу і катаўся на сваім веласіпедзе вакол басейна. Раптам з'ехаў у басейн, у якім было даволі многа вады — вышэй дарослага чалавека. Мірэк пачаў тапіцца. Малышы, якія гулялі ля басейна, пачалі крычаць, аднак старэйшых людзей не было ў вёсцы, бо паехалі сушыць сена. На шчасце, праходзіў вуліцай вучань 8-га класа Валодзя Дуда і, пачуўшы крык дзяцей, убег за агароджу. Многа часу на роздумы не было і проста ў адзенні Валодзя кінуўся на ратунак малышу. Так Валодзя выратаваў Мірка ад смерці.

**Чытач „Нівы",**
імя і прозвішча да ведама рэдакцыі.




**Міра Лукша.** „Зіну" надрукуем.
**Яўген Семянюк.** Апавяданні і вершы надрукуем.
**Васіль Асеннік.** Надрукуем верш „Піва" і „Мая старонка". Пра сілачоў пайшла ўжо добрая інфармацыя. Няма сэнсу паўтараць.
**Ірэна Васілюк, Бельск.** „Дзень у лагеры" надрукуем.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Pippi" (szwedzki), 10—11. „Staroświecki dramat" (radz.), 12—13. „Poślizg" (polski), 14—15.

**Нараўка**
„Okruchy życia" (franc.), „Wydra pana Grahama" (angl.), 11—15.

**Нарва**
„Czym mogę służyć" (czeski), „Gniewna podróż" (bułg.), 11—15.

**Чыжы**
„Dziewczyna inna niż wszystkie" (włoski), „Hełm Aleksandra Macedońskiego" (radz.), 11—15.

**Дубічы Царкоўныя**
„Kajtek i nowy braciszek" (węgierski), „Poszukiwanie" (hiszpański), 11—15.

**Арэшкава**
„Lekcja odwagi" (czeski), „Śmierć Ipu" ,rumuński), 11—15.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Śledztwo w sprawie obywatela poza wszelkim podejrzeniem" (włoski), „Początek nowego świata" (rumuński), 11—15.

**Орля**
„Pilot helikoptera" (radz.), „150 na godzinę" (polski), 11—15.

**Райск**
„24 godziny z życia kobiety" (franc.), „Małżonkowie roku II-go" (radz.), 11—15.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Woda życia" (radz.), „Jaskółki" (węgierski), 11—15.

**Янаў**
„Poślizg" (polski), 11—15.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Zdarzenie" (jugosł.), 10—11. „Tajemnica Aleksandra Dumasa" (czeski), 12—13. „Rewizja osobista" (polski), 14—15.

**Мельнік**
„Każdemu swoje" (włoski), 10—11. „Śmierć na zakręcie" (NRD), 12—13. „Posag księżniczki Ralu" (rumuński), 14—15.

**Мілейчыцы**
„Przepustka na ląd" (radz.), 10—11. „Kwiecień" (polski), 12—13. „Anatomia miłości" (polski), 14—15.

**Ніва**

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty na prenumeratę indywidualną dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc.

BZGraf. Nakład 8069 K-1

# Як я злавіўся

Сяджу сабе і думаю. Успамінаю. Аж дрыжыкі бяруць...

Учора... Учора было ўчора. Учора я мыўся з касмічнай хуткасцю ў завадской лазні, забыўшы памыць спіну, бо, бачыце, спяшаў на рыбу. Па дарозе забег у магазін, узяў каўбаскі і, вядома, да каўбаскі. Усе ж ведаюць, што не п'е толькі сава, бо ўдзень спіць, а ўначы магазіны закрыты. Дома сабраў снасці. Жонка чамусьці бурчыць. Прынамсі, я яшчэ не чуў, каб нехта з калег гаварыў, што жонка хваліць яго, калі ён задумаў ісці на рыбу.

Дачакаўся раніцы. Яшчэ перад світаннем пайшоў да стаўка. Клявала нядрэнна. Ды толькі і таго, што клявала. Рыбакоў было больш, чым рыбы. Я мяняў нажыўку, падсмальваў макух для закідух, каб лепш пахла, але ўсё дарма. Мне параілі змяніць кручкі на закідушках на меншыя, бо карпы вялікіх не засмоктваюць. Змяніў я кручкі. Меншыя прывязаў, а вялікія ў падкладку шапкі пазатыкаў. Закінуў. А сам за вудкі сеў. Дзесятак краснапёрак злавіў. Палегчала крыху на сэрцы. Час ідзе, трэба дамоў збірацца, бо мне ад жонкі ўльтыматум: да дванаццатай дома быць...

Дома мая ўжо падабрэла: прыйшоў у пару ды яшчэ і рыбкі прынёс. Кажа: „Ідзі, Міколка, пагуляй з Алесяй, а я тым часам юшку падрыхтую".

Пасадзіў я сваю малую на плечы, прагульваюся з ёю па двары. Яно радзенькае, што на бацьку забралася. Шапку маю цягае па галаве. То на патыліцу, то на нос насоўвае. І раптам — мама мая родная! У галаву быццам сто катоў пазурамі ўпілася! Кручкі!.. Колькі? Можа, усе восем...

Крычу: „Пачакай, Алеся. Вазьмі рукі!"

А яна: „Тату, я ўпаду". Ды шапку яшчэ мацней нацягвае.

Бег я ў клініку, юшкі не сёрбаўшы. На шчасце, дзяжурыў хірург. Зайшоў я. Ды дзе там зайшоў — уляцеў, не стукаючы, не вітаючыся. А ён: „Вы хоць бы шапку знялі, малады чалавек".

„За гэтым і прыйшоў, — кажу, — каб вы мне знялі".

Пакруглелі вочы ў хірурга, але потым зразумеўшы сітуацыю, выцягнуў ён з маёй галавы тры кручкі, хоць і шапку парэзаў.

Вечар... Сяджу і ўспамінаю... Аж дасюль дрыжыкі бяруць... І доўга яшчэ, мабыць, буду ўспамінаць, доўга будуць адрастаць валасы, якія павыстрыгаў лекар на тых месцах, дзе кручкі ўпіліся былі ў галаву.

А жонка... Што ёй! Вядома, радасць. Бегае вось, шчабеча з Алесяй.

**Уладзімір Крывы**

— *Чаго яму ад мяне трэба? Я з ім зусім незнаёмы!*

# НІЎКА

*Чаго ў спорце не бывае!*

## ГУМАР З

### ГАВАРУН

Бацька з малым сынам едуць валамі з поля. Валы млява ідуць, паскрыпвае ярмо. Хлапчук сядзіць на возе. Бацька смокча люльку. Раптам перад валамі шмыгнула нешта шэрае.

— Тату, заяц, заяц, заяц! — залямантаваў хлапчук.

І не ўздрыгнуў бацька. Толькі калі прыехалі дамоў, выпраглі валоў ды селі за стол, ён абыякава махнуў рукою і ляніва кінуў:

— Ды няхай сабе бяжыць.

### ПЕРАНЁС

— Няма ў свеце хваробы, якую б я не перанёс, — скардзіцца знаёмаму іпахондрык.

— Ну, не гаварыце, — сумнявaецца той, — ёсць жа хваробы, ад якіх чалавек альбо памірае, альбо становіцца ідыётам!

— Ведаю, ведаю... і гэта я перанёс...

### ТАКСАМА

Мужы размаўляюць:

— Мая жонка лічыць, што вельмі карысна есці ўсё сырое.

— Мая таксама не любіць варыць.

### ВЫГАДАВАЎ

Муж працаваў у полі, а жонка напякла піражкоў і паслала сына, каб занёс бацьку. Сын прыносіць і кажа:

— Тату, маці перадала вам тры піражкі, дарогаю я з'еў два з палавінаю і палавіну пачаў, а рэшту вам прынёс...

## МІНІБАЙКІ

### АБ СКРОМНАСЦІ

Галоўнай якасцю ў мурашак лічыцца скромнасць.

Аднойчы бягучая спераду Мурашка ўбачыла, што на шляху гарыць трава. Яна хацела крыкнуць: „Я бачу, трава гарыць!" Але тут жа падумала: „Гэта будзе няскромна. Я бачу, а іншыя, значыць, не бачаць".

І прамаўчала. І згарэла.

Калі іншыя мурашкі ўбачылі яе гібель, яны павярнулі са сцяжынкі. І выратаваліся. А на магіле невядомай Мурашкі паставілі маленькі каменьчык з вялікім надпісам: „Скромнасць упрыгожвае чалавека".

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**

## МІНІВЕРШЫ

### ПАДЛІЗА

Ён не першы і не пяты
Свайму шэфу ліжа пяты.

### ГУЛЬТАЙ

Пашчыраваць штодня ля нівы
Не любіць нізашто ляніва.

**П. Шыбут**

**...Стварыўшы для суседзяў сапраўднае пекла, паклёпнік жыў, як у раю.**

**...Скардзіўся: каб выкапаць яму іншаму, капаць трэба прорву.**

### ПРЫЗНАЎСЯ

— Пане міліцыянер, забярыце мяне!

— За што?

— Я ўдарыў сваю жонку.

— Няўжо білі?

— Ды што вы! Вось бяжыць з віламі за мною!..

### ТОЛЬКІ ДАЙ!

Прыйшоў нейк да Дзмітра ў госці сусед Іван з сваёю жонкаю. Селі за стол, налілі, выпілі. Калі ўжо ўсе традыцыйныя тосты вычарпаліся, Іван сказаў:

— Давайце вып'ем за Дзмітравага сына!

— А навошта за яго піць? — здзівіўся Дзмітр. — У мяне такі сын, што і сам здужае выпіць за сябе. Толькі дай!..

### ЁН ЛІЧЫЦЬ

Катаржнікі, засуджаныя на пажыццёвае зняволенне, абмяркоўваюць праблемы шлюбнага жыцця:

— Ты жанаты?

— Не, я лічу за лепшае свабоду.

— *Гэй, адчыніце дзверы — валасы прышчаміла!*

### ЦВІКІ АБМІНАЕ

Міліцыянер, убачыўшы на дарозе машыну, якая пятляла то ўлева, то ўправа, спыніў яе. — Як вы пасмелі сесці за руль у нецвярозым стане? — спытаў ён вадзіцеля.

— А я зусім цвярозы.

— А чаму ж вы тады пятляеце па дарозе?

— Дык гэта я цвікі абмінаю, — адказаў вадзіцель.

### УПЕРШЫНЮ

— Гэта праўда, што вы разводзіцеся?

— Так, упершыню нам з мужам удалося дайсці да згоды.

### УСЁ ПРАВІЛЬНА

— Вось паглядзі, галубчык, я знайшоў у чарцы вашага віна сівы волас! — абурана сказаў наведвальнік рэстарана.

— У гэтым няма нічога дзіўнага. Гэта вельмі старое віно, — адказаў афіцыянт.

— *Перастань чысціць чаравікі коўдраю — ты не ў гасцініцы.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Любы Назарук, Мар'і Мінюк, Ніны Грыгарук, Ані і Олі Іванюк з Градочна, Веры Харкевіч з Ляшукоў, Ірэны Харкевіч, Жэні Антосюк, Ніны Нікіцюк і Зосі Юрчук з Янова змяшчаем папулярную савецкую песню

## BŁĘKITNA TAJGA

**Muzyka: A. BABADŻANIAN**
**Słowa polskie: W. MAKSYMKIN**

Jutro trzeba nam w drogę
ruszyć znów skoro świt,
odpocznijmy więc trochę,
gdy ognisko się tli.

Znajomego walczyka
z dala dobiegł nas dźwięk,
wokół tajga błękitna,
tajga piękna jak sen. (bis)

Lekko, jakby nad ziemią
razem znów ja i ty
w cichym walcu płyniemy,
gdy za rzeką ktoś gra.

Wszystko z oczu nam znika,
świat się nurza we mgle,
wokół tajga błękitna,
tajga piękna jak sen. (bis)

Kiedy znów się spotkamy
na tych ścieżkach — kto wie,
z naszym szczęściem niełatwym
dobrze tobie i mnie.

Białe płótno namiotu
domem dla nas co dzień,
wokół tajga błękitna,
tajga piękna jak sen. (bis)

Jutro trzeba nam w drogę
ruszyć znów skoro świt,
odpocznijmy więc trochę,
gdy ognisko się tli.

Znajomego walczyka
z dala dobiegł nas dźwięk,
wokół tajga błękitna,
tajga piękna jak sen.

### ВЯЛІКАЯ ГАРАНТЫЯ

Убягае жанчына ў тэлеатэлье:

— Тры дні, як купіла тэлевізар і ўжо не працуе! А гарантыя даецца ж на два гады. Можа вы мне скажаце, што гэта значыць?

— А тое, шаноўная, значыць, што тэлевізар ваш два гады бясплатна будзем рамантаваць, — адказаў тэлемайстар.

— О, божа!.. Аж два гады... Дык раней жа рамантавалі толькі год..

## КУРЁЗЫ

### ЛЁС ТЭАРЭТЫКА

„Ці застрахаваны твой дом ад нападу грабежнікаў?" — кнігу пад такім загалоўкам выпусціў у ЗША містэр Роберт Барнес. Ён падрабязна сістэматызаваў і апісаў у ёй самыя розныя спосабы, якія прымяняюць аматары чужога дабра, а таксама меташ супрацьдзеяння грабежнікам. Кніга здабыла вялікую папулярнасць і аўтар ужо рыхтаваўся выпусціць другое, значна дапоўненае выданне. І тут непрыемны эпізод прыпыніў справу: даследчык быў арыштаваны пры спробе абрабавання кватэры. Дарма пераконваў Барнес, што ён зрабіў гэта ў чыста пазнавальных мэтах, спрабуючы на практыцы праверыць некаторыя свае тэарэтычныя палажэнні. Доследы давялося спыніць на два з паловай гада...

### АБ ШКОДЗЕ АЛКАГОЛЯ

Жыхар Вены Асбольд Бертрамек, чалавек гарачы, пасапрачаўся з сваім суседам, што без асаблівых цяжкасцей з'есць свае чаравікі. Выйграць было спакусліва — тры бутэлькі шнапса на дарозе не валяюцца. Пры поўным пашане маўчанні суседа і шматлікіх сведкаў чаравікі былі сапраўды з'едзены. Пад вечар наступнага дня пераможца ў поўпрытомным стане быў адпраўлены ў бальніцу. Пасля дакладнага абследавання кансіліум вопытных лекараў паставіў дыягноз: „Вострае атручэнне празмерна вялікай колькасцю шнапса".

СМЯЙЦЕСЯ З НАМІ

*Рабіце хібы без памылак.*